

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 7 (594)** **26 ЛЮТАГА 2003 г.**



**МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
220004, г. Мінск, Калектарная, 10. Тэл. 220-86-87, факс 220-96-84

**МИНИСТЕРСТВО ЮСТИЦИИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
220004, г. Минск, Коллекторная, 10. Тел. 220-86-87, факс 220-96-84

05.02.2003 № 01-13/1294

**Старшыні Рады грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" 220005, г Менск, вул Румянцава, 13**

Гэтым паведамляю, што загадам **Міністра юстыцыі** Рэспублікі Беларусь ад 5 лютага 2003 г. № 15 пісьмовае папярэджанне ў адрас грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" адменена.

Просім узмацніць кантроль за дзейнасцю нізавых структурных падраздзяленняў.

**Памочнік Міністра** **В. В. Качанаў.**

---

**5 лютага 2003 г.**

**Сп. А. С. Петрашу, першаму намесніку Міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь 220048 г. Менск, вул. Калектарная, 10**

Аб прынятых мерах па ліквідацыі папярэджання Міністэрства юстыцыі ад 26 лістапада 2002 г. № 06-04-(14007)

### Паважаны Аляксандр Сяргеевіч!

Папярэджанне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 26 лістапада 2002 г. з улікам рашэння Вярхоўнага Суда Беларусі ад 29 студзеня 2003 г. разглядалася на пасяджэнні Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны", якая адбылася 26 студзеня 2003 г., і на пасяджэнні Сакратарыяту нашай арганізацыі 6 лютага 2003 г.

У выніку разгляду было прынятае наступнае рашэнне:

1. Прапанаваць сябру Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Станіславу Судніку аднавіць да 8 верасня 2003 года мемарыяльны крыж у вёсцы Беліца Лідскага раёна з улікам патрабаванняў, пералічаных у вышэйзгаданым пісьмовым папярэджанні, і запрасіць на яго адкрыццё прадстаўніка Міністэрства юстыцыі. Прасіць старшыню абласной Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Гарадзенскай вобласці сп. А. І Місцюкевіча аказаць сп. Судніку падтрымку па гэтым пытанні.

2. Прапанаваць кіраўніку Лідскай раённай арганізацыі сп. Леаніду Анацку зарэгістраваць яе ў райвыканкаме. Да моманту рэгістрацыі рэкамендаваць сп. Анацку дзейнічаць у межах Лідскай арганізацыі, якая мае афіцыйную рэгістрацыю.

3. Кіраўніцтву спраў і кіраўнікам рэгіянальных структур ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" пры вырабе інфармацыйных лісткоў абавязкова ўжываць афіцыйную назву нашай арганізацыі.

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Алег Трусаў.**

## Сустрэча з Канаплёвым

10 лютага адбылася сустрэча кіраўніцтва грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" з віца-спікерам Палаты прадстаўнікоў Уладзімірам Мікалаевічам Канаплёвым.

Падчас сустрэчы закраналіся пытанні практыкі прымянення існага Закона аб мовах і яго магчымай карэктыроўкі. Прадстаўнікі Таварыства звярнулі ўвагу на пэўныя дэфармацыі ў бок пагаршэння становішча дзяржаўнай беларускай мовы ў сферы адукацыі і аказанні паслугаў насельніцтву. Бакі прыйшлі да згоды, што варта разгледзець прапановы ТБМ па змене ў Законе аб мовах ў адпаведнай камісіі Палаты прадстаўнікоў.

Адбыўся зацікаўлены абмен думкамі па пытанні стварэння ў Беларусі вышэйшай навучальнай установы з беларумай моваі выкладання. Старшыня ТБМ Алег Трусаў перадаў Уладзіміру Канаплёву канцэпцыю стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, распрацаваную Таварыствам беларускай мовы. Намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў выказаўся за тое, каб Камісія па навуцы, культуры і адукацыі разам з прадстаўнікамі ТБМ прапрацавалі гэтае пытанне.

Прадстаўнікамі ТБМ было паднятае пытанне пра беспрэцэдэнтны загад Міністра адукацыі аб адмене абавязковага экзамена па беларускай ллітаратуры ў сярэдніх навучальных установах. Быў перададзены зварот Сакратарыяту ТБМ "Вернем экзамен па беларускай літаратуры ў школу" ад 2 траўня 2002 года.

Бакі выказалі зацікаўленне ў далейшых кантактах.
**Сакратарыят ТБМ.**

## Карусю Каганцу споўнілася 135 гадоў з дня народзінаў



Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі), сын паўстанца 1863 года, належыць да найстарэйшых песняроў беларускага адраджэння. Гэта ён, у пару страшэннай нацыянальнай цішы на Беларусі, звяртаўся да Бога: "О Божэ, Спасе наш! Ты міласць нам пакаж, з няволі вызваль нас!" Цяпер гэтая песня пераложана на ноты...

К. Каганец выступіў на беларускі шлях у самую дзікую пару Аляксандраўскай рэакцыі. "У той час, -- кажа А. Уласаў, блізка знаўшы К. Каганца,-- назваццa гімназісту беларусам было тое самае, што зрабіць вялікі чын Муцыя Сцэвалы, або голым прайсці па вуліцы. І неадменна выгналі б з гімназіі за такую крамолу, бо для царскіх чыноўнікаў ні беларусаў, ні Беларусі не было; быў толькі "истинно русский край" з "истинно русскими людьми" на Беларусі". Але "ад барадатай прысадзістай постаці Каганца, насіўшага дэманстратыўна кажух і боты і падпяразанага чорнарускім поясам, - піша А. Уласаў, - веяла моцнай, непарушнай, як скала, верай, што Беларусь трэба падымаць"...

**Падрыхтавала Н. Г. Сакалоўская.**

### Грамадскае аб'яднанне "ТБМ імя Ф. Скарыны" абвяшчае ў лютым месячнік

## "Любіце і кахайце па-беларуску!

Табе сумна? Табе холадна! Ты – нешчаслівы!

Ты чакаеш некага, каб ён прынёс табе радасць і асалоду?

Спыніся чакаць! Памятай! Тваё шчасце знаходзіцца не ў нечых руках, а ва ўласных галаве і сэрцы.

Палюбі! Палюбі сябе, бо ты – Бог у тваім жыцці.

Назаві сябе тымі беларускімі словамі, якія захавалі для цябе нашыя продкі.

Ты – прыгожы, таленавіты, папулярны, самавіты, багаты, здаровы.

Палюбі ўсё, што цябе акружае: дзяцей, бацькоў, родных, знаёмых, незнаёмых. Пусці іх у сваё сэрца, і яны сагрэюць яго. Яны – самыя лепшыя, бо яны – Твае!

Сагрэй любоўю свай дом і хату, свой горад і вёску, сваю Радзіму Беларусь і Сусвет – і ты адчуеш іх цеплыню і ўтульнасць.

Пакахай! Шаноўны муж, спадарынька жонка, легкадумная дзяўчына, бесклапотны хлапчына! Кахайце сваіх любых! Не ўмееце самі – павучыцеся ў дунін-марцінкевічаўскіх Грышкі і Марысі, мележаўскіх Васіля і Ганны, купалаўскіх Паўлінкі і Якіма. Гаварыце прыгожыя словы: гаспадынька, ясачка, красачка, багіня, анёл мой, мiленькі, любая. І засінее вашае жыццё беларускай валошкай, забялее бярозкай, загарыцца яскравай зорачкай.

**Любіце і кахайце па-нашаму, па-беларуску!**

Беларуская мова-ТБМ-наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Пётр Ломан – 5.000 р.
2. Тадэвуш Кокштыс – 3.000 р.
3. Аляксандр Лабанок – 1.000 р.
4. Святаслаў Астрамовіч – 1.000 р.
5. Валянцін Салаўёў -- 1.000 р.
6. Юры Цвірка – 1.000 р.
7. Аляксандр Андрыенка – 1.000 р.
8. Віктар Дашкевіч – 1.000 р.
9. Юры Лізінгевіч – 1.000 р.
10. Рыгор Шацько – 5.000 р.
11. Наталля Аладка – 1.000 р.
12. Людміла Пісарава – 1.000 р.
13. Святлана Жукоўская – 1.000 р.
14. Святлана Дашкевіч – 1.000 р.
15. Раіса Грыбовіч – 1.000 р.
16. Валянціна Петрачкова – 1.000 р.

**Усе г. Віцебск.**

1. Сяргей Дарашкоў, г. Гомель -- 650 р.
2. Казлоўская Наталля, г. Менск -- 11. 840р. і 5 дол.

**Інфармацыйнае агенцтва БелаПАН**

1. Барбарыч Генадзь – 3000 р.
2. Буткевіч Вячаслаў – 3000 р.
3. Вельтнар Юры – 3000 р.
4. Гаравы Марат -- 5000 р.
5. Короткая Наталля – 4000 р.
6. Ліпай Алесь – 8000 р.
7. Лемешава Галіна – 3000 р.
8. Савосценка Ігар – 4000 р.
9. Трацякоў Уладзімір -- 2000 р.
10. Шырокі Юры – 3000 р.
11. Інін Мікалай – 500 р.

Усяго: 38.500 тыс рублёў.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Зварот Сакратарыяту ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"**

## *Любіце і кахайце па-беларуску!*

У лютым з яго шалёнымі завірухамі і жорсткімі маразамі так хочацца цеплыні і ўтульнасці. Нездарма няўрымслівая моладзь 14 лютага адзначае свята закаханых Дзень Валянціна. З гэтай нагоды ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" абвяшчае месячнік **"Любіце і кахайце па-беларуску".**

Пачніце любіць з сябе, бо вы – цэнтр вашага жыцця. Палюбіце таксама вашае акружэння: дзяцей, бацькоў, родных, сяброў, знаёмых і незнаёмых. Гаварыце ім ласкавыя словы, якія назапасіла наша мова, хваліце іх, усміхайцеся. Адорвайце іх падарункамі, выраблёнымі на беларускіх прадпрыемствах. Спявайце беларускія песні, чытайце паэтычныя радкі пра любоў і каханне – і ў вашым жыцці паселіцца святло і цеплыня.

Любіце свой дом і хату, свой горад і вёску, сваю Радзіму Беларусь і Сусвет. Яны берагуць і ахоўваюць нас сваёй любоўю. Павучыцеся любові ў гордай Рагнеды, слаўнай Еўфрасінні, славутага Скарыны, неўміручага Каліноўскага, адданага Купалы, неўтаймаванага Караткевіча.

Кахайце!

Кахайце па-беларуску мужчын ці жанчын, дзяўчат ці хлопцаў, жонак ці мужоў. Наша мова адорыць вас пярлінамі родных слоў кахання. Спяліце ў глыбіні сэрцаў гэтае найвы-шэйшае пачуццё – і ў вашае жыццё навек увойдзе Гармонія. Няхай дапамагаюць вам нашы літаратурныя героі: мележаўскія Васіль і Ганна, дунін-марцінкевічаўскія Грышка і Марыся, коласаўскія Андрэй і Ядвіся, купалаўскія Якім і Паўлінка.

**Любіце і кахайце пасвойму, па-беларуску.**

# Калі шчасце прыходзіць у дом...

На гэтым здымку – маладая пара.

Усё здаецца звычайна. Але незвычайнасць яе ў тым, што хлапец – Андрэй Мікалаеў з'яўляецца інвалідам-калясачнікам.

Бяда здарылася 19 жніўня 1995 года.

Менавіта ў гэты дзень Андрэй упаў з дрэва падчас службы ў войску і атрымаў вельмі цяжкую траўму ў шыйным аддзеле спіннога мозгу. Ён мае 1 гр. інваліднасці. У 2000 годзе Андрэй выдаў свой першы зборнік вершаў "Будзем жыць, братка!"

... У 2001 годзе інвалід-калясачнік Андрэй Мікалаеў задумаў скочыць з парашутам.

Мара Андрэя здзейснілася – на тэрыторыі Менскага аэраклуба ў Баравой, нягледзячы на дрэннае надвор'е, падзея адбылася.

... Памятаю, як у той дзень на полі сабралася шмат гледачоў, журналістаў, у тым ліку і я. У прызначаны час Андрэй з'явіўся ў суправаджэнні маці, брата і інструктараў – Юрыя Стэфановіча і Кацярыны Мазаковай. Выглядаў ён даволі бадзёра і нават адказаў на пытанні асабліва дапытлівых рэпарцёраў...

... Хутка асабліва ўважлівыя разгледзелі ў небе тры чорныя кропкі... Па-першае – гэта тандэм Юрыя і Андрэя, і прэзідэнт каўнаскага парашутнага клуба Кястас Станіўліс, які тэхнічна дапамог здзейсніць гэты скачок паспяхова...

Гэта было амаль два гады таму.

Сённяшняя падзея – а, менавіта, вяселле і шлюб 30-гадовага Андрэя Мікалаева – значная падзея не толькі ў яго жыцці, а і ў жыцці ўсіх беларускіх інвалідаў-калясачнікаў! Гэты шлюб дадае аптымізму і энергіі ўсім беларускім інвалідам! Андрэй узяў шлюб з абсалютна здаровай дзяўчынай, якая працуе інжынерам-камп'ютаршчыкам і ведае, калі шчасце прыходзіць у дом...

*Аляксей Шалахоўскі.*



# План работы

## Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" на 2003 год

Прыняты 26.01.2003 г. на паседжанні Рады ТБМ

| № Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|
| 1. Падрыхтоўка да правядзення чарговага VIII з'езду ТБМ. | Люты-верасень | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 2. Арганізацыя курсаў па вывучэнні і ўдасканаленні беларускай мовы. | Студзень-чэрвень,верасень-снежань | Сакратарыят, абл. структуры ТБМ |
| 3. Праца па стварэнні кампутарнай праграмы па кадыфікацыі і праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах. | На працягу года | С.Кручкоў |
| 4. Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў на "Наша слова", "Новы час" і інш. беларускамоўныя газеты і часопісы. | На працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| 5. Арганізацыя працы камісіяў ТБМ (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | На працягу года | Старшыні камісіяў ТБМ |
| 6. Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у д/с і 1-ыя класы ў 2003-2004 навучальным годзе. | На працягу года | Бацькоўскі камітэт, адукацыйная камісія |
| 7. Супрацоўніцтва з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№ 48 ад 27.08.2001г.) "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі": каардынацыя сакратарыятам збору подпісаў грамадзян з патрабаваннем адкрыцця беларускамоўных навучальных устаноў. | На працягу года | Сакратарыят,рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 8. Супрацоўніцтва з Дзяржстандартам па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы ў інструкцыях і на ўпакоўках тавараў, якія маюць абарачэнне на тэрыторыі Беларусі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 9. Праца з прадпрыемствамі па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 10. Правядзенне рэспубліканскага конкурсу "Найлепшы руплівец роднага слова". | На працягу года | Абласныя рады ТБМ, Менская гар. рада ТБМ сумесна З СП Беларусі і адпавед. аддзеламі адукацыі рэгіёнаў |
| 11. Адзначыць 140-я ўгодкі паўстання **К. Каліноўскага.** | На працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 12. Ушанаванне памяці ды святкаванне 120-х угодкаў народзінаў **Францішка Аляхновіча.** | Люты-сакавік | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 13. Ушанаванне памяці ды святкаванне 110-х угодкаў нарадзінаў **Максіма Гарэцкага.** | Сакавік-красавік | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 14. Ушанаванне памяці ды святкаванне 100-х угодкаў народзінаў **Наталлі Арсенневай.** | Верасень | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 15. Ушанаванне памяці і святкаване 120—х угодкаў народзінаў **Вацлава Ластоўскага.** | Кастрычнік | Сакратарыят,рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 16. Ушанаванне памяці літаратара і палітычнага дзеяча **Язэпа Лёсіка** ў сувязі з ягоным 120-годдзем з дня народзінаў. | Лістапад | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 17. Сумесна з фондам імя братоў Луцкевічаў выдаць кішэнны каляндарык на 2003 г. **да 100-годдзя "Грамады"**, першай беларускай партыі. | Люты | Сакратарыят, фонд імя братоў Луцкевічаў |
| 18. Правядзенне "круглага стала" на тэму: **"Рэформа беларускага правапісу 1933г. у БССР і яе наступствы для беларускай мовы".** | Верасень | Сакратарыят |

## Няфёдаўскія чытанні

Беларуская акадэмія мастацтваў разам з Інстытутам мастаўтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН заснавала новую форму навукова-творчай канферэнцыі 1-я Няфёдаўскія чытанні "Беларускае мастацтва: гісторыя і сучаснасць", якія прысвечаны памяці выдатнага даследчыка беларускага тэатра Уладзіміра Іванавіча Няфёда, які быў чалавекам свайго часу, але пакінуў школу тэатральных крытыкаў. Яго вучнямі з'яўляюцца Анатоль Сабалеўскі і Тамара Гаробчанка, Гуры Барышаў. Няфёд меў шмат тытулаў, але не гэта прывяло навуковую грамадскасць у сцены тэатральнай залы студэнцкага тэатра.

18-19 лютага 2003 года ў БАМ сабраліся маладыя навукоўцы і сталыя даследчыкі, каб абмеркаваць актуальныя праблемы развіцця тэатра Беларусі!

Асаблівую цікавасць выклікалі даклады Наталлі Нячаевай "Грамадска-культурнае асяроддзе гарадоў віцебскай губерніі ў XIX ст." і Таццяны Дубоўскай "Тэатральнае жыццё Беларусі на акупаваных тэрыторыях (1941-45 гг.)"

На канферэнцыі прысутнічалі родныя У. І. Няфёда (1916-1999), якія прыгадалі асаблівасці постаці навукоўца ў сямейных адносінах.

У гэтыя ж дні ў Менску праходзілі іншыя культурныя мерапрыемствы, у прыватнасці "Гарэцкія чытанні", але лічу, што веды набытыя падчас канферэнцыі "1-я Няфёдаўскія чытанні" будуць карыснымі і патрэбнымі...

*Аляксей Шалахоўскі.*

## Новая выстава

18 лютага ў музеі сучаснага выяўленнага мастацтва была адкрыта выстава "Габрэйскае жыццё ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе" Большую частку фотаздымкаў складаюць працы Эдварда Сяроты, дзядуля і бабуля, якога нарадзіліся ў Кобрыне. На сённяшні дзень творца стала пасяліўся ў Вене. Ён адзіны чалавек у свеце, які асвятляе прафесійна на фота габрэйскае жыццё. Таксама на выставе было некалькі фотаздымкаў Міхася Баразны і Анатоля Кляшчука. Выстава выклікала вялікую цікавасць грамадскасці, а ейны аўтар, сп. Эдвард даў некалькі лекцый у БАМ, ЕГУ.

Гэтую ж выставу 12 сакавіка пабачаць у Полацку, 16 красавіка у Магілёве, 7 траўня ў Гомелі, а 29 траўня ў Бабруйску.

Днямі аўтар наведае радзіму продкаў – г. Кобрын.

*Аляксей Шалахоўскі.*

**ДЗІЦЯЧЫ ФОНД ДУХОЎНАГА І КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ "САКАВІК"**
**да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Маўра (11.05.2003 г.) абвяшчае конкурс**
**НА ЛЕПШЫ ДЗІЦЯЧЫ МАЛЮНАК ПА ТВОРАХ Я. МАЎРА**

Удзельнічаюць дзеці ўзросту 8-13 гадоў.

Пераможцаў чакаюць цікавыя падарункі і паездка ў Вялікабрытанію

Малюнкі дасылаць да 1.05.2003 г. на адрас Дзіцячага фонду "Сакавік":

220012, г. Мінск, вул.Сурганава, 13а, кв.2, тэл. 284-14-80.

# БІБЛІЯТЭКАР: ПОГЛЯД НА ПРАФЕСІЮ

Бібліятэка як старажытны інстытут пісьменства, асветы, культуры, адукацыі заўсёды займала адно з важнейшых месцаў у жыцці грамадства. Таму прафесія бібліятэкара заслугоўвае асаблівай увагі ў наш імкненны час супярэчлівых пераўтварэнняў.



У чаканні чытачоў... Абанемент Рэчыцкай раённай бібліятэкі

Мяняюцца функцыі бібліятэк. Бібліятэка ўжо не проста культурна-асветніцкая ўстанова: яна ўсё больш становіцца інфармацыйнай установай. У сувязі з гэтым мяняецца і бібліятэчная дзейнасць, яе інфармацыйныя рэсурсы і тэхналогіі, што вядома адлюстроўваецца і на прафесіі. Выкарыстанне новых інфармацыйных тэхналогій, стварэнне тэлекамунікацыйных сетак прыводзіць да істотных змен у структуры, арганізацыі працы бібліятэк, наменклатуры спецыялістаў, патрабаванняў да іх.

Традыцыйна бібліятэкар меў справу з дакументамі на паперных носьбітах, якія не патрабавалі пры іх узнаўленні тэхнічных прыстасаванняў. У сучасны момант яму ўсе часцей даводзіцца працаваць з аўдыё і відэаматэрыяламі, дыскетамі, кампактдыскамі, электроннымі выданнямі. Таму бібліятэкару патрэбна валодаць адпаведнымі тэхнічнымі сродкамі. Сучасны бібліятэкар павінен валодаць кампутарам, ксераксам, сканерам, прынтарам, мадэмам, відэатэхнікай. Усё часцей ён мае справу не з дакументамі, якія яму ў працэсе работы даводзіцца фізічна перасоўваць, а з віртуальнай інфармацыяй, якая па жаданні бібліятэкара або карыстальніка бібліятэкі з'яўляецца на экранах кампутара, а затым пры неабходнасці знікае. Працуючы ў інфармацыйных сетках, бібліятэкар па сваіх магчымасцях прыраўноўваецца да ўсіх карыстальнікаў гэтых сетак. Ён становіцца адным са шматлікіх пастаўшчыкоў і карыстальнікаў інфармацыі!

Інфарматызацыя – адна з галоўных вектарных змен у прафесіі бібліятэкара. Ён становіцца інфармацыйным спецыялістам; яго прафесія ў шэрагу іншых інфармацыйных прафесій: музейных супрацоўнікаў, архіфістаў, выдаўцоў і інш. Такім чынам, звяршаецца тэхнізацыя бібліятэчнай прафесіі.

Гэтая акалічнасць выклікае неабходнасць падрыхтоўкі бібліятэкараў новай фармацыі. Неабходна з'яўленне такіх спецыялістаў як бібліятэкар-тэхнолаг, бібліятэкар-адміністратар баз дадзеных, менеджар інфармацыйных сістэм.

Развіццё WWW-сервісу Інтэрнэту абумовіла таксама неабходнасць падрыхтоўкі спецыялістаў па стварэнні і абнаўлені WEB-старонак; бібліятэкараў, якія б спецыялізаваліся ў галіне электроннай выдавецкай дзейнасці, правядзенні трэнінгаў па Інтэрнэту для супрацоўнікаў і карыстальнікаў бібліятэк. Патрэбны спецыялісты па тэлеканферэнцыях.



Дзеткі - чытачы Бярозаўскай сельскай бібліятэкі Докшыцкага раёна



Бібліятэкар Рэчыцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі Елісеева Ганна Уладзіміраўна знаёміць юных чытачоў з зімовым букетам кветак

На змены ў бібліятэчнай прафесіі ўплывае і сацыяльная арыентацыя многіх публічных бібліятэк, якая абумовіла неабходнасць з'яўлення такіх спецыялістаў як бібліятэкар-псіхолаг, бібліятэкар па абслугоўванню сацыяльна неабароненых груп насельніцтва; для дзіцячых бібліятэк – бібліятэкар – педагог. Вялікая ўвага ўдзяляецца праблемам работы бібліятэкара як бібліятэрапеўта. Апошні кірунак у тэарэтычным аспекце паспяхова распрацоўваюць дацэнты кафедры бібліятэказнаўства У. А. Акуліч, Н. У. Клімянкова, С.А. Паўлава, аспірантка Н.Я. Пятушка.

Мусіць недалёкі і той час, калі спатрэбяцца спецыялісты па бібліятэчнаму дызайну, а сацыяльныя і маркетынгавыя даследванні ў бібліятэках ужо патрабуюць такіх спецыялістаў як бібліятэкар-маркетолаг, бібліятэкар-сацыёлаг, бібліятэкар-даследчык.

Многія бібліятэкары-практыкі асэнсавалі патрэбу ў авалоданні ведамі і навыкамі навукова-даследчай дзейнасці.

Патрэбна адзначыць яшчэ адну прыкмету часу. Сэнс бібліятэчнай-інаватыкі не толькі ва ўкараненні інфармацыйных тэхналогій, якія абапіраюцца на кампутарную тэхніку. Не менш значнымі з'яўляюцца і сацыяльныя тэхналогіі, новыя формы сувязі з грамадскасцю, пошук спонсараў, зава-ёва і запаўненне сваёй нішы ў шматаспектнай культурна-асветніцкай дзейнасці розных устаноў.



Дрыбінская раённая бібліятэка прысвяціла кніжную выставу пісьменніку-земляку С. Гаўрусёву

На сучасным этапе бібліятэкі сталі больш адкрытымі грамадству. Яны распрацоўваюць і праводзяць у жыццё сацыякультурныя мерапрыемствы, мэтавыя дабрачынныя праграмы і праекты: "Жыццё патрабуе міласэрнасці" (Нацыянальная бібліятэка Беларусі), "Міласэрнасць" (бібліятэкі Менскай вобласці), "Дабрыня" (бібліятэкі Светла-горскага р-на Гомельскай вобласці), "Мы разам. Мы патрэбны адзін аднаму" (бібліятэкі г. Менска).

Мэтавыя праграмы – даволі эфектыўная форма работы ў дапамогу вырашэнню многіх надзённых праблем грамадства. У іх здзяйсненні, як правіла, задзейнічаны ўладныя структуры, СМІ, прававыя ўстановы, афіцыйныя і дабрачынныя арганізацыі.

Гэтая акалічнасць патрабуе асобай спецыяльнасці, якую можна было б назваць "менеджар бібліятэчных сацыякультурных праграмаў", а ў яе межах лагічная спецыялізацыя "менеджар выставачнай дзейнасці" Дарэчы, БДУ культуры прадугледжвае спецыялізацыю "менеджар бібліятэчнай справы" у недалёкім будучым.

Такім чынам, для бібліятэчнай прафесіі сёння характэрныя тэхнізацыя, тэхналагізацыя, сацыяльная накіраванасць, інтэлектуалізацыя, адкрытасць.

Выхад на шырокую аўдыторыю патрабуе ад бібліятэкара больш высокай культуры. Значэнне набывае прафесійная этыка, своеасаблівы стандарт прафесійнага здумення і паводзінаў. Яго вырашэнне цалкам залежыць ад саміх бібліятэкараў. Таму ўяўляецца важным задача адраджэння асабовай годнасці бібліятэкара. Сёння дзейнічаюць іншыя прынцыпы і правілы; адышлі ў мінулае прынцыпы партыйнасці, аднадумства.



***На факультэце міжнародных зносін БДУ пачала працаваць дэпазітарная бібліятэка ААН. Яна створана ў рамках фундаментальнай бібліятэкі Белдзяржуніверсітэта пры матэрыяльна-тэхнічнай і арганізацыйнай падтрымцы сумеснага праекту "Цэнтр па вывучэнні ААН", праграмы развіцця ААН, упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў і БДУ. Бібліятэка атрымала значную колькасць матэрыялаў ААН, якімі цяпер змогуць карыстацца студэнты і шырокая публіка.***

***Важным элементам дэпазітарнай бібліятэкі з'яўляецца кампутарная сетка, якая мае выхад у Інтэрнэт і дае магчымасць карыстацца шырокай інфармацыяй на ААНаўскіх старонках у Інтэрнэце.***

***На здымку: пытанні працы дэпазітарнай бібліятэцы ААН абмяркоўваюць менеджар праграмы "Цэнтр па вывучэнні ААН" Уладзімір Шчэрба, бібліятэкар Таццяна Лапацентава (у цэнтры) і бібліёграф Ірына Раманоўская.***

***Фота Яўгена Казюлі, БелТА.***

Ідэал самастойнай, прадпрымальнай асобы, арыентаванай на асабістыя поспехі, асабістыя дасягненні, адказнай за сябе – гэта новая школа каштоўнасцяў, якую патрэбна падняць на п'едэстал асабліва кіраўнікам бібліятэк у працы з персаналам.

Сістэма прыярытэтаў, якая павінна быць прысутна кожнай бібліятэцы, уключае, як агульную прафесійную культуру спецыялістаў, так і эканамічную, прававую, што ў сукупнасці вызначае іх маральна-прафесійны воблік, статус у грамадстве і грамадскай свядомасці. Фармаванне эканамічнай і прававой культуры бібліятэкара – асобная праблема, бо бібліятэкі, атрымаўшы ўнутраную эканамічную самастойнасць, цяжка пераходзяць на нарматыўнае фармаванне бюджэту.

Нам здаецца, што ў тэрмін "прафесійная культура бібліятэкара" лагічна ўкалючаецца эканамічна-прававая і псіхолага-маральная. Гэтыя складовыя з'яўляюцца якаснай характарыстыкай творчага патэнцыялу асобы спецыяліста, вызначаюць яго рэальны статус.

Прафесіяналізацыя здумення бібліятэкара, гонар за сваю прафесію і працу знаходзяць адлюстраванне ў нарастальнай зацікаўленасці да бібліятэчнай гісторыі і традыцый, жаданні вызначыць месца бібліятэкі ў сацыякультурнай прасторы не толькі рэгіёна, але і міжнароднага ўзроўню.

Удзел бібліятэкараў у міжнародных канферэнцыях, сімпозіюмах, паездкі за мяжу, стажыроўкі ў буйнейшых бібліятэках свету – прыкмета часу. Уваход бібліятэк у сусветны інфармацыйны абмен – працэс, які прыпыніць немагчыма. Таму вельмі важна асэнсаваць, якім павінен быць бібліятэкар інфарматызавага грамадства.

*Л. А. Дзямешка – прафесар кафедры бібліятэказнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24. 02. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 259.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.